*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 27 (866)** **2 ЛІПЕНЯ 2008 г.**

## Новы закон "Аб правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі" ўступіць у сілу 1 верасня 2010 года

**4 красавіка 2007** года Савет Міністраў унёс на разгляд Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь Праект Закона "Аб Правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі".

**24 чэрвеня 2008 г.** Палата Прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь прыняла закон у другім чытанні.

**29 чэрвеня 2008 г.** закон "Аб правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі" ўхваліў Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі.

Як раней заяўляў кіраўнік пастаяннай камісіі Савета Рэспублікі па адукацыі, навуцы, культуры і гуманітарных пытаннях Анатоль Новікаў, распрацоўшчыкі новых правілаў "імкнуліся забяспечыць адзінства нормаў пісьмовай беларускай мовы і спрасціць яе вывучэнне ва ўсіх установах адукацыі".

У прыватнасці, новымі правіламі прапаноўваецца напісанне з вялікай літары назваў органаў улады, арганізацый, прадпрыемстваў, устаноў, а таксама пасад, званняў і тытулаў.

У новым законе ўдакладноўваюцца фармулёўкі правілаў, пашыраецца прынцып "акання", спрашчаецца правілы пераносу слоў, пашыраецца пералік слоў, якія пішуцца з вялікай літары.

Законапраект уступіць у сілу 1 верасня 2010 года. У адпаведнасці з ім "дзяржаўныя органы, іншыя арганізацыі, грамадзяне Рэспублікі Беларусь, а таксама замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства, якія пастаянна або часова пражываюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, павінны кіравацца правіламі беларускай арфаграфіі і пунктуацыі, зацверджанымі гэтым законам, ва ўсіх сферах і выпадках выкарыстання беларускай пісьмовай мовы".

*(Каментар з нагоды чытайце на ст. 2.)*

## *8 стобальных вынікаў па беларускай мове!*

Сталі вядомыя вынікі ўдзельнікаў цэнтралізаванага тэставання па беларускай мове. Без перабольшвання можна сцвярджаць, што сёлета быў пастаўлены своеасаблівы рэкорд — 100 балаў атрымалі аж 8 абітурыентаў. Нагадаем, што летась такім бліскучым вынікам маглі пахваліцца толькі трое чалавек — усе прадстаўнікі Меншчыны. А ў 2006 годзе лепшым быў вынік у 98 тэставых балаў. Як расказаў карэспандэнту «Звязды» дырэктар Рэспубліканскага інстытута кантролю ведаў Мікалай Фяськоў, сярод стобальнікаў сёлета прадстаўлены ўсе рэгіёны. Увогуле высокіх балаў сёлета набралася шмат. 99 балаў атрымалі 2 чалавекі, 98 балаў — 15 чалавек, 97 балаў — 14 чалавек, 96 балаў — 28 чалавек, 95 балаў — 44 чалавекі, 94 балы — 35 чалавек, 93 балы — 51 чалавек, 92 балы — 65 чалавек, 91 бал — 56 чалавек і 90 балаў — 94 чалавекі. А 50 і больш тэставых балаў набралі каля 20 працэнтаў абітурыентаў.

У цэлым тэставанне па беларускай мове прайшло са значна лепшымі вынікамі, чым па рускай, з чым і віншуем прыхільнікаў Беларушчыны.

*(Паводле газеты "Звязда" ад 25 чэрвеня 2008 г.)*

## Прапановы ТБМ пераадрасаваныя ў Міністэрства адукацыі

Адміністрацыя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь



Администрация Президента Республики Беларусь

220016 г. Мінск, рэзідэнцыя Прэзідэнта, тэл. 222-37-51, факс 226-06-10 E-mail: contact@president.gov.by

220016 г. Минск, резиденция Президента, тел. 222-37-51, факс 226-06-10 E-mail: contact@president.gov.by

17 июня 2008 г. № 10/535-100

Старшыні грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" Трусаву А.А.

Аб прапановах да праекта Дэкрэта Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь

Паважаны Алег Анатольевіч!

У Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь разгледжаны Ваш, зварот ад 10 чэрвеня 2008 г. № 92. Прыведзеныя ў ім прапановы наконт выкладання некаторых дысцыплін у сярэдняй школе не з'яўляюцца прадметам рэгулявання Дэкрэта Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "Аб асобных пытаннях агульнай сярэдняй адукацыі" і таму не могуць быць улічаны ў працы над праектам дадзенага нарматыўнага прававога акта.

У сувязі с гэтым Ваш ліст накіраваны ў Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, у кампетэнцыю якога ўваходзіць вырашэнне падобных пытанняў.

Намеснік Кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Н.У. Пяткевіч.

## Падведзены вынікі агульнанацыянальнай дыктоўкі



26 чэрвеня ў Менску ў пасольстве Літвы адбылося падвядзенне вынікаў агульнанацыянальнай дыктоўкі па беларускай мове, прысвечанай 90-годдзю абвяшчэння БНР.

Ініцыятар правядзення акцыі палітолаг Уладзімір Падгол выказаў удзячнасць паслам 11 краін Еўрасаюза і ЗША за падтрымку дыктоўкі, дзякуючы чаму акцыя з агульнанацыянальнай стала еўрапейскай, а паслу Літвы Эдмінасу Багдонасу за магчымасць падвесці вынікі акцыі ў будынку пасольства.

Як зазначыў У. Падгол, 23 сакавіка беларусы мусілі пісаць дыктоўку ў офісах, на вуліцы і ў храмах, бо ўсе бібліятэкі краіны, у тым ліку і нацыянальная, адмовілі ў правядзенні акцыі. Палітолаг мяркуе, што акцыя стане традыцыйнай і да яе далучацца літоўцы, палякі і ўкраінцы. "Такая дыктоўка стане рэальным крокам на шляху Беларусі ў Еўрасаюз", сказаў У. Падгол.

Пасол Украіны ў Беларусі Ігар Ліхавы назваў дыктоўку падзеяй года. "Для кожнага чалавека родная мова як родная маці. А ўкраінскі паэт Тарас Шаўчэнка пісаў, што чалавека, які забывае пра маці, людзі пазбягаюць і ў хату не пускаюць", сказаў дыпламат. Ён павіншаваў усіх, "хто не цураецца роднай мовы, размаўляе на ёй і таму штодня ходзіць на барыкады".

Старшыня "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" Алег Трусаў зазначыў, што падвядзенне вынікаў дыктоўкі супала з іншай важнай падзеяй на радзіме Васіля Быкава ў вёсцы Бычкі Ушацкага раёна Віцебскай вобласці ўручаюцца першыя ўзнагароды імя народнага пісьменніка Беларусі. Старшыня ТБМ нагадаў наказ Васіля Быкава: "Беражыце мову, і тады народ захаваецца".

Паслам Балгарыі, Ізраіля, Літвы, Польшчы, Славакіі, ЗША, Украіны і Чэхіі былі ўручаны ганаровыя прызы копіі Звана Свабоды з падстаўкай з граніту, што ўзяты з падножжа помніка Іосіфу Сталіну ў Менску. Прызамі за мужнасць адзначаны кіраўнік першых арганізацый нацыянальнага адраджэння ў Беларусі ў канцы 1980-х гадоў Сяргей Вітушка (Вільнюс, Літва), актывіст партыі КХП-БНФ Барыс Хамайда (Віцебск), а таксама легендарны Мірон, які пісаў дыктоўку на даху жылога дома ў Віцебску пад бел-чырвона-белым сцягам.



Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў у якасці прыза ўручыў бібліятэчку беларускіх кніг адной з удзельніц дыктоўкі Яўгеніі Дудко, маці экс-кандыдата ў прэзідэнты лідэра БСДП (Грамада) Аляксандра Казуліна.

Да падвядзення вынікаў дыктоўкі ў пасольстве была адкрыта выстава фатаграфій і ўстаноўлены тры званы: Свабоды, Курапацкі і Чарнобыльскі.

*Марат Гаравы, БелаПАН.*

*На здымку: Барыс Хамайда са Звонам свабоды.*

## КУПАЛЬСКІ ФЭСТ НА ДРУЦІ

***З 19 па 23 чэрвеня паміж Бялынічамі і Магілёвам, непадалёку ад вёскі Гута, адбыўся штогадовы Купальскі фэст, які зладзілі ТБМаўцы з Бялынічаў: Алег і Мікола Мяцеліцы, Сяргей Рашчукоў. Геаграфія ўдзельнікаў, колькасць якіх сягала 80-ці чалавек, досыць шырокая: Бялынічы, Магілёў, Горкі і Дрыбін, Барысаў і Менск.***



На свяце было ўсё, але перадусім - агромністае вогнішча, вакол якога вадзілі карагод і спявалі купальскія песні; гайдаліся на арэлях, якія зладзілі на вялізным дубе. Ахвотныя нават мелі магчымасць пабываць на экскурсіі ў індзейскім ціпі і праплысць па Друці на каноэ.

Безумоўна, найбольш запамінальнай стала купальская ноч. Гэта і святочны стол з старадаўнім беларускім напоем - крупнікам, які аматары прыгатавалі на вогнішчы. Гэта скокі і гульні, што ладзіліся пад беларускую дуду, на якой намайстэрску граў Віталь Чавусаў з магілёўскага гурта "landers". Дадало ўражанняў і вогненнае шоў, зладжанае Зміцерам Труханенкам. І, канешне ж, якое Купалле абыходзіцца без варажбы і дзявочых вянкоў з палявых рамонкаў?

Бясспрэчна, свята пакіне ва ўсіх ўдзельнікаў чароўны ўспамін, бо кожны прысутны надаў Купаллю нешта сваё - цікавае і таямнічае. На некалькі дзён фэст на Друці аб'яднаў у адзіную грамаду зусім розных людзей, як здавалася на першы погляд. Але насамрэч усіх яднала простае ўсведамленне таго, што Беларусь і Беларушчына – гэта не проста прыгожыя словы, а сэнс жыцця.

*Дзьячкоў Алег, Магілёў.*

# Закон прыняты – праблемы засталіся

4 красавіка мінулага года Савет Міністраў унёс на разгляд Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь Праект Закона "Аб Правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі". У траўні Праект быў змешчаны на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале Рэспублікі Беларусь у камп'ютэрным банку дадзеных праектаў законаў Рэспублікі Беларусь (адрас сайта: www.pravo.by), а 13 жніўня — на сайце Міністэрства адукацыі (www.minedu.unibel.by).

Праект прадугледжваў унясенне цэлага шэрагу зменаў у існы правапіс. Аднак змяненне правапіснага стандарту з'яўляецца надзвычайнай мерай, якая патрабуе сур'ёзнага абгрунтавання. Папярэдняе азнаямленне са зместам Праекта дало падставы сумнявацца ў мэтазгоднасці прапанаваных у ім зменаў. Ды і само з'яўленне такога дакумента выглядае несвоечасовым.

З нагоды прыняцця закона 30 жніўня 2007 г. адбылося пасяджэнне сакратарыяту ТБМ, на якім было вырашана, што неабходным з'яўляецца правядзенне шырокага грамадскага абмеркавання Праекта Закона, апублікаванне яго ў дзяржаўных СМІ, правядзенне круглага стала па дадзенай тэме да канца верасня, на які неабходна запрасіць спецыялістаў, навукоўцаў, выкладчыкаў вышэйшых і сярэдніх навучальных установ, прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі і шырокай грамадскасці, а таксама распрацоўшчыкаў Праекта і прадстаўнікоў Савета Міністраў і Міністэрства адукацыі, дэпутатаў Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь.

28 верасня 2007 г. на сядзібе ТБМ адбыўся "круглы стол", прысвечаны абмеркаванню Праекта Закона "Аб правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі". У Круглым стале прынялі ўдзел беларускія навукоўцы, настаўнікі і журналісты. Удзельнікі дадзенага мерапрыемства прынялі наступную рэзалюцыю:

*"Мы канстатуем, што ў Рэспубліцы Беларусь склалася нездавальняючая сітуацыя з ужываннем дзяржаўнай беларускай мовы ў розных сферах грамадскага жыцця. Прапанаваны Праект Закона "Аб правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі", на нашу думку, ніякім чынам не прадугледжвае паляпшэння сітуацыі і не спрыяе пашырэнню выкарыстання дзяржаўнай мовы тытульнай нацыі краіны.*

*З мовазнаўчага пункту гледжання – на дадзены момант адсутнічаюць перадумовы для якаснага складання новага арфаграфічнага зводу з улікам сучасных патрабаванняў лінгвістычнай навукі: не распрацаваны тэарэтычныя асновы правапіснай кадыфікацыі, не маюць строгага акрэслення арфаэпічныя нормы беларускай літаратурнай мовы; да гэтага часу не створана электронная база беларускай мовы.*

*З юрыдычнага пункту гледжання — звяртае на сябе ўвагу тое, што правядзенне змен у правапісе прапануецца ў форме закона. У выніку яго прыняцця грамадзяне, якія карыстаюцца беларускай мовай, падвергнуцца дыскрымінацыі, бо Праект Закона прадугледжвае "адзіныя Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі, якія ўстанаўліваюць аднастайнасць пісьмовай беларускай мовы і з'яўляюцца абавязковымі на ўсёй тэрыторыі Рэспублікі Беларусь"; аднак падобнае адзінства і аднастайнасць арфаграфічных і пунктуацыйных нормаў не прадугледжваецца ў адносінах да іншых моў, у тым ліку ў адносінах да другой дзяржаўнай мовы Рэспублікі Беларусь – рускай.*

*У сувязі з вышэйсказаным мы лічым неабходным зрабіць наступнае:*

*1) адкласці прыняцце змен у правапісе беларускай мовы ў форме закона – да аднаўлення рэальнага функцыянавання беларускай мовы ў асноўных сферах дзейнасці дзяржавы;*

*2) апублікаваць Праект новай рэдакцыі Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі ў дзяржаўных друкаваных СМІ;*

*3) арганізаваць шырокае грамадскае абмеркаванне Праекта новай рэдакцыі Правілаў;*

*4) правесці навуковую канферэнцыю па праблемах беларускага правапісу;*

*5)правесці парламенцкія слуханні па праблеме прыняцця новай рэдакцыі Правілаў."*

24 чэрвеня 2008 г. закон быў прыняты ў другім чытанні.

25 чэрвеня у газеце "Звязда" з'явіўся артыкул Алы Мачалавай "Законныя правілы. Нюансы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі прайшлі пробу другім чытаннем". У дадзеным артыкуле цытуюцца словы старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе Уладзіміра Здановіча. Сп. Здановіч адзначыў у прыватнасці, што сярод асноўных змяненняў у правапіс прадугледжваюцца "новыя фармулёўкі правілаў і іншую сістэму іх групіроўкі, пашырэнне прынцыпу акання і напісання "ў" у словах іншамоўнага паходжання, спрашчэнне правілаў пераносу слоў, упарадкаванне напісання вялікай літары" (так, паводле слоў дэпутата, з вялікай літары будуць пісацца ў выпадках высокага стылістычнага ўжывання словы "Радзіма", "Айчына", "Чалавек", "Маці").

Адзначаецца таксама, што распрацаваныя правілы не знялі ўсе праблемы беларускага правапісу, а сучасная моўная практыка мае патрэбу ў больш строгім вызначэнні правапісу канчаткаў часцін мовы. У правілах інфармацыю аб гэтым мы не знойдзем, бо гэта праблемы не арфаграфіі, а марфалогіі. Такім чынам існуе патрэба ў стварэнні ў будучыні асобнага дакумента.

29 чэрвеня 2008 г. закон "Аб правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі" ўхваліў Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі.

Таварыства беларускай мовы адзначае пэўныя прагрэсіўныя рысы новага варыянту правапісу. Так, добра, што словы *экзэмпляр, сэрвіс, інтэрнэт* крыху змянілі сваё аблічча і пішуцца з літарай *э*.

Дадатна, што захоўваецца напісанне ***і*** пасля прэфіксоідаў *звыш-, між-, пан-, супер-, транс-, контр-*. Станоўча, што словы *гарвыканкам, прафкам* атрымалі нарэшце натуральны беларускі выгляд. На гэтыя прыклады было шмат нараканняў падчас абмеркавання.

Да таго ж з вялікай літары будзе зараз пісацца слова ***Бог*** і іншыя словы, звязаныя з рэлігійнай тэматыкай, напрыклад, ***Крыж Ефрасінні Полацкай***, а таксама назва нашай былой дзяржавы ***Вялікае Княства Літоўскае***.

Пры гэтым, маецца і шэраг заўваг. У тэксце Закона неаднаразова ўжываецца фармулёўка "пішацца ў адпаведнасці з літаратурным вымаўленнем". Аднак нідзе ў тэксце няма дакладнага вызначэння, што трэба разумець пад літаратурным вымаўленнем.

Зусім не зразумелы сэнс фразы, якая часта паўтараецца ў тэксце Закона "напісанне … вызначаецца па слоўніку". Які слоўнік маецца на ўвазе, кім і калі ён створаны?

Да таго ж застаецца адкрытым надзвычай актуальнае пытанне правапісу прозвішчаў і іх склонавых формаў.

Аднак самае адмоўнае заключаецца ў змесце Артыкула 2. Цытуем яго цалкам. *"Дзяржаўныя органы, іншыя арганізацыі, грамадзяне Рэспублікі Беларусь, замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства, якія пастаянна ці часова пражываюць або часова знаходзяцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, павінны кіравацца Правіламі беларускай арфаграфіі і пунктуацыі, зацверджанымі гэтым Законам, ва ўсіх сферах і выпадках выкарыстання пісьмовай беларускай мовы".*

Такім чынам, класічны правапіс на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь фактычна забаронены, што паглыбляе раскол нашага грамадства, у тым ліку і па моўнай прыкмеце. Вельмі цікавым з'яўляецца Артыкул 3, у якім "Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь да 1 верасня 2010 года даручаецца:

*"забяспечыць прывядзенне актаў заканадаўства ў адпаведнасць з гэтым Законам;*

*прыняць іншыя меры, неабходныя для рэалізацыі палажэнняў гэтага Закона".*

Хочацца спадзявацца, што ў іншыя меры ўвойдуць толькі друкаванне новых слоўнікаў, падручнікаў і метадычнай літаратуры.

***Старшыня ТБМ***
***Алег Трусаў.***

# Татальная непісьменнасць у Мінску

Нашай сталіцаю справядліва захапляюцца госці – чысціня ўсюды, шырокія вуліцы і праспекты, зеляніны многа, кветак. Праўда, апошнім часам у горадзе з'явілася гэтулькі машын, што яны запаланілі не толькі вуліцы і двары. У многіх месцах з-за жалезных коняў проста нельга прайсці. Ставяць іх ужо нават там, дзе нельга. А яшчэ некаторыя кажуць, што беларусы бедна жывуць. Каб гэта была праўда, кожны другі жыхар горада Мінска не імкнуўся б набыць не вельмі танны аўтамабіль.

Але не пра гэта скажу. Мінск проста кішыць ад непісьменных надпісаў, аб'яў у тралейбусах і аўтобусах, у метро. Няўжо ў Мінскім гарсавеце няма чыноўніка, які клапоціцца за пісьменнасць рэкламы, плакатаў, шыльдаў, вывесак, назваў транспарту, магазінаў, іншых установ і г.д., няўжо гэта нікога не хвалюе?! Ведаю, што высокае начальства грамадскім транспартам не карыстаецца. Яго возяць, таму яно нічога не бачыць навокал, не можа нічога заўважыць. Таму нікому і не сорамна за той паток непісьменнасці, які запаланіў наш цудоўны горад.

Мастакі-афармляльнікі правілаў граматыкі пераважна не чытаюць, не ведаюць. Пішуць часам лухту такую, якую ніхто ім не дазваляў. Не дазваляюць і правілы школьнай граматыкі. Мо будуць вывучаць новыя правілы, якія прымаюцца? У гэта верыцца з цяжкасцю. Няхай бы перапробкі (частыя!) аплачвалі з сваёй кішэні.

Беднае наша *ё*. Па Мінску ходзяць тралейбусы **"Зялены луг"**, **"Паўдневы захад"** і інш. замест **"Зялёны луг"**, **"Паўднёвы захад"**. І ўжо не адзін год.

Прайдзіце па вуліцы **Кісялёва**. Убачыце, што яна насуперак правілам граматыкі, здароваму сэнсу названа вуліцай **Кісялева**.

На праспекце Машэрава ёсць клуб **"Мільен, а не Мільён"**.

Каля 4-й бальніцы ўжо колькі гадоў стаіць **"Гандлевы кіеск"**. На якой мове надпіс? Па-руску было б **"Торговый киоск"**, па-беларуску - **"Гандлёвы кіёск"**. Тым не менш горад "упрыгожвае" **"Гандлевы кіеск"**. Кожны дзень у ім купляюць сотні людзей. І ўсе абыякава праходзяць міма, хоць бачаць глупства.

А чаго варты аб'явы ў транспарце? **"Наступны прыпынак вуліца Цімашэнка!"** – гучыць голас непісьменнага дыктара. Можна адаслаць яго да правілаў арфаграфіі. Але дыктары гэтага не робяць, беручы ганарар за непісьменнасць. Прозвішчы на – **а** – *Мажэйка, Цімашэнка. Казека* і інш. – у родным склоне ў беларускай мове пішуцца і чытаюцца: калі жанчына – *Мажэйка, Цімашэнка, Казека, Каваленка*. Калі мужчына – *Мажэйкі, Цімашэнкі, Казекі. Каваленкі*, гэта ведае, прынамсі павінен ведаць, кожны школьнік. Дарэчы, у рухомым радку даецца правільна: **"Вуліца Цімашэнкі"**. Затое ***м-ен*** (г.зн. ***мікрараён***) даецца і ў рухомым радку няправільна.

У метро, тралейбусах, аўтобусах няма месцаў для ляжання. Чаму тады дыктары (мужчыны і жанчыны) запрашаюць уступаць месца для сядзення? Навошта гэтыя лішнія словы, словы-паразіты?..

Або такое. Слоўнікі беларускай мовы пішуць ***каледж***: На ўсіх слупах, на ўсіх прыпынках напісана ***каледж***. На вуліцы Бельскага метровымі літарамі выпісана назва ўстановы: **Беларускі дзяржаўны харэаграфічны каледж**. Не. У аб'яве гучыць: *"Наступны прыпынак педагагічны коледж"*. І хоць ты ім кол на галаве чашы, у лоб страляй – трэляць сваё.

Агідна таму, хто добра ведае нашу беларускую мову, слухаць: *дверы, дьверы, людям, жыттё, у сярэдіну, уступайте, детям* і г.д. забыліся пра Панчанкаўскае *"звонкае дзе і густое чаго"*. Што, на Беларусі няма людзей, якія добра гавораць па-беларуску? (Не, падсоўваюць нам "мінчян", якія галоўныя гукі беларускай мовы ***дз, дж, ч, ц*** не могуць вымаўляць. Нават станцыю метро называюць *"Маладёжная"* (напісана *"Маладзежная"*). Які ідыёт (хай даруе за эмацыянальнае слова) назваў кнігарню каля Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі ***"Кнігачэй"?*** Такога слова ў беларускай мове няма і ніколі не было, ды і рускія ім, безадзейна ўстарэлым, цяпер не карыстаюцца. Такое слова не знойдзеце ні ў адным нашым слоўніку. Але ж кнігарня з такою дзікаю назваю "красуецца" ў сталіцы Беларусі. І нікога гэта не хвалюе. Хутка нас будуць зваць не беларусамі, а санкюлотамі.

Назваў кнігарню так той, хто, як кажуць, і зялёнага паняцця не мае пра лексіку і ўнутраныя законы беларускай мовы, якой не карыстаецца і не будзе карыстацца ў далейшым. А зрабіў гэта, каб пасмяяцца з дурных беларусаў. Талерантнасць тут ні пры чым.

Ужо болей за дзесяць гадоў найперш тэлевізійшчыкі настойліва ўбіваюць нашаму народу ў галаву назву яго тысячагадовай, адвечнай ракі **Нёман**, як *Неман*. Забывайцеся, кажуць, песню Н. Сакалоўскага на словы А. Астрэйкі. Не спявайце яе, бо там рака названа **Нёман**, так як яе называе народ адвеку.

Можна прыгадаць тысячы прыкладаў непісьменнасці ў Мінску. Але ў роце не стане саладзей, калі будзем тысячу разоў казаць: "Халва, халва". Трэба прымаць канкрэтныя захады, выпраўляць памылкі.

Мінск павінен быць узорным горадам не толькі знешне, а пісьменнасць павінна абавязкова запанаваць у ім усюды, каб мінчане ганарыліся сваім горадам. Патрыятызм трэба выхоўваць не толькі высакапарнымі словамі, а паказваць людзям канкрэтна і паслядоўна праўду, сумленнасць, любоў да свае краіны, свайго народа. Тым болей пісьменнай рэкламай. правільнымі назвамі.

***Янка Саламевіч,***
***пенсіянер, былы энцыклапедыст; кандыдат філалагічных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі.***




У Слоніме выдадзена другая па чарзе паштоўка з партрэтамі выдатных людзей Слонімшчыны. На паштоўцы змешчаны выявы Язэпа Стаброўскага, Кандрата Лейкі і Сяргея Дарожнага. Аўтары паштоўкі: Алесь Масюк, Сяргей Чыгрын.



# Віншуем сяброў ТБМ, якія нарадзіліся ў ліпені

Гняткоў Валеры
Рымша Алесь Георгіевіч
Хасанаў Ігар
Чарткоў Мікола Альгердавіч
Недзялкаў Яраслаў
Русаў Пятро Аляксандравіч
Сарокін Арцём Адамавіч
Сяменчык Настасся Мікал.
Сяркоў Андрусь
Жмачынскі Аляксандр Вікт.
Дабравольская Наталля Міх.
Лабадзенка Глеб Паўлавіч
Варачаева Анастасія Андр.
Сакалоўскі Уладзімір
Даніловіч Мар'яна
Макоўская Алена
Пашкевіч Тацццяна Вал.
Баброўская Марына Вітал.
Лукін Ілля Міхайлавіч
Бацян Пётр Дзмітрыевіч
Савік Мікола Пятровіч
Арбузава Аналія Цімафееўна
Кузяцоў Ігар Мікалаевіч
Тумаш Генадзь
Розін Дзмітрый Барысавіч
Вячорка Вінцук Рыгоравіч
Цюленеў Аляксандр Алякс.
Касяк Кастусь
Шыпай Аляксандра Генадз.
Буцко Павел Анісімавіч
Пятроў Аляксандр Аляксан.
Цюшкевіч Сяргей Анатол.
Шэравера Руслан Уладзімір.
Нікалаеўская Вольга Ігараўна
Радзівонава Ірына Яўгенаўна
Чарнышоў Алесь Ігаравіч
Корзун Валянціна
Зеленкевіч Наталля
Млынарчык Марыя
Бельская Святлана
Краснеўскі Віталь Сяргеевіч
Кулак Жанна Язэпаўна
Галай Аркадзь Апанасавіч
Бараноўскі Ігар Віктаравіч
Барболін Васіль Васільевіч
Каракін Андрэй Анатольевіч
Балашка Алег
Трапашка Марыя
Сухаверхі Міхаіл Пятровіч
Шусціцкі Тадэвуш Віктар.
Машанскі Аляксандр Іванав.
Казлоўскі Іван Іванавіч
Герасімовіч Казімір Станісл.
Ліннік Міхаіл Аляксандравіч
Муха Анатоль Міхайлавіч
Цішко Валянцін Уладзімір.
Здановіч Іван Юльянавіч
Жукоўскі Ігар
Ячычка Віктар
Талерчык Тамара Васільеўна
Місарэвіч Тацццяна Іванаўна
Шычко Святлана Вячаслав.
Місцюк Уладзімір Мікал.
Самасюк Аляксандр Міхайл.
Мікалаеўская Анастасія Іван.
Трацяк Вера
Машынская Ірына Антонаўна
Нікановіч Васіль Васільевіч
Крываручанка Ігар Мікал.
Кухарчык Пётр Андрэевіч
Марчанка Пётр Георгіевіч
Чыгір Клаўдзія Сцяпанаўна
Кардаш Наталля Аляксандр.
Дрожынава Іна Аркадзеўна
Гуркоў Сяргей Мікалаевіч
Адамчык Надзея Іванаўна
Лапановіч Андрэй Васільевіч
Смаль Валянцін Мікалаевіч
Радчук Віталій Дзмітрыевіч
Нікалаеўская Вольга
Літвіненка Аляксандр
Сінцова Тацццяна
Лагутаў Віталь
Мароз Наталля Алегаўна
Паўлоўская Ганна Валер'еўна
Тупік Кацярына Віктараўна
Арэшка Вераніка Вечаслав.
Краўчук Маргарыта Дзмітр.
Мулашкіна Лізавета Дзмітр.
Васечка Іван Уладзіміравіч
Сяткоўская Вераніка Уладзім.
Смола Тацццяна
Цітко Валянцін Уладзіміравіч
Кундас Ганна
Рудовіч Мікалай
Аўдзейчык Ілля Анатольевіч
Аўсей Аляксандр
Ткачова Вольга
Шарашовец Аляксандр Мік.
Ваўчок Аляксандр
Пастарнак Барыс Натанавіч
Ермалёнак Вітольд Антонавіч
Ксянзоў Кірыл Уладзіміравіч
Краўчанка Сяргей Канстанц.
Ярмац Аляксандр Аляксанд.
Крывашэў Зміцер Сяргеевіч
Пашкевіч Мікалай Іванавіч
Паплыка Аляксандра Сярг.
Белан Наталля
Цімянкова Галіна
Згурская Ганна
Карп Алена Аляксандраўна
Калеева Вераніка Уладзімір.
Коцікаў Ян
Звераў Юры
Баран Аляксандр
Новікава Марыя Сяргееўна
Цыганкоў Генадзь Васільевіч
Кобер Таіса
Кульбіцкі Пятро С.
Блізнюк Аляксандр Аляксан.
Ліннік Сяргей Мікалаевіч
Грузноў Валерый Іосіфавіч
Піскун Андрэй Анатольевіч
Талапіла Алесь Львовіч
Пашкевіч Алег Эдуардавіч
Молчан Барыс Валянцінавіч
Лецяга Ігар
Язерскі Сяргей
Цішкевіч Вольга Іосіфаўна
Лесавы Кірыл
Залацілін Аляксандр Валер.
Пракоф'ева Юлія
Ішчанка Кацярына Сяргееўна
Талатай Святлана
Казляк Любоў
Кульбеда Дзмітрый Сярг.
Яўцюшкіна Тацццяна Аляксан.
Лажкова Наталля
Жыгальская Вольга Анатол.
Ермакова Святлана Сярг.
Хрол Часлаў Часлававіч
Картавенкава Галіна Пятр.
Даўматовіч Іван Уладзімір.
Рамук Алена
Найдзёнава Вера
Чысцякоў Аляксей Уладзім.
Стрыгельская Наталля Анат.
Шалупенка Васіль Іванавіч
Амбразевіч Людміла Мікал.
Місцюкевіч Аляксандр Іван.
Зуёнак Васіль Васільевіч
Кітурка Ірына Фёдараўна
Грынько М.У.
Савіна Анастасія
Максімава Кацярына
Чапля Данута
Ермаловіч Святлана
Бязрукая Маргарыта Юр.
Бубешка Уладзімір
Шымірка Анатоль
Скупановіч Уладзімір Леанід.
Звонік Святлана
Данілава Тацццяна
Казлова Алена
Кароткі Мікалай Мікітавіч
Лапкоўскі Алег Мікалаевіч
Панізнік Алена Іванаўна
Танкевіч Аляксандр Яўген.
Прыбыткова Святлана
Пузанкевіч Сяргей Уладзім.
Ільініч Наталля Валянцінаўна
Богдан Вадзім Міхайлавіч
Семяненка Максім Уладзім.
Пазняк Жанна
Бумажэнка Я. М.
Кавалёнак Л. П.
Бармута Юлія Уладзіміраўна
Усцінава Людміла Нікіфар.
Знавец Павел Кірылавіч
Гайко Сяржук Анатольевіч
Парда Аліна Іванаўна
Ганчароў Мікалай Паўлавіч
Амяльковіч Віталь Леанідавіч
Сыч Ніна Лявонцьеўна

## XVIII Міжнародныя Шагалаўскія чытанні ў Віцебску. Уражанні госця.

З 15 па 17 ліпеня ў Віцебску праходзілі чарговыя, 18-ыя па ліку Міжнародныя Шагалаў-скія чытанні на радзіме мастака, у яго чароўным Віцебску. Ізноў горад сабраў прыхільнікаў творчасці майстра з розных краін свету. Сяброў Музея Марка Шагала, прыхільнікаў яго творчасці і знатакоў, якія цікавяцца лёсам мастака, віталі кіраўнік аддзела культуры Віцебскага гарвыканкаму Віктар Кібісаў, паэт Давід Сімановіч, дырэктар музея Людміла Хмяльніцкая.





*Марк Шагал і Марк Ротка*

У першы дзень з раніцы адбылося знаёмства ўдзельнікаў і гасцей Шагалаўскіх чытанняў з Домам-музеем і Арт-цэнтрам Марка Шагала, была праведзена вельмі цікавая экскурсія. А потым адбылося ўрачыстае адкрыццё канферэнцыі ў беларускім тэатры “Лялька”. Сёлетнія чытанні праходзілі ў рамках праекта “Марк Шагал – Марк Ротка: мастацтва без межаў”, пад час якога таксама ў музеі праходзіў праект міжнароднай тэхнічнай дапамогі, вынікі якога і былі падведзеныя.

Таксама ў гэтым годзе Музей Марка Шагала праводзіў конкурс студэнтцкіх работ, прысвечаных мастаку, пераможцы якога былі запрошаны на чытанні. На самой справе гэта быў самы лепшы прыз, таму што можна было пазнаёміцца з тымі людзьмі, па працах якіх і пісаліся конкурсныя работы, падзяліцца з імі ўражаннямі, атрымаць парады.

Апошні дзень канферэнцы быў прысвечаны авангардызму пачатку XX стагоддзя ў Латвіі. Адбылася прэзентацыя выстаўкі “Авангард у Латвіі” з фондаў нацыянальнай бібліятэкі краіны. На гэтай выстаўцы былі прадстаўлены плакаты, з якіх можна было ўбачыць розніцу мастацтва таго часу ў нашай краіне і ў суседзяў.

На канферэнцыі прагучалі вельмі цікавыя даклады пра Марка Шагала, пра мастакоў яго асяроддзя, пад час якіх можна было вярнуцца ў Віцебск, якім яго бачыў майстар, адчуць тую атмасферу. Здавалася, што сам Шагал прысутнічаў на чытаннях і радаваўся, што яго не забылі і што яго працу працягваюць маладыя мастакі.

Канферэнцыя праходзіла ў цёплай, сяброўскай атмасферы. Музейныя работнікі і навукоўцы з розных краін (а іх было прадстаўлена шмат: Беларусь, Расія, Ізраіль, Літва, Латвія) дзяліліся досведам. Марк Шагал аб'ядноўваў розных людзей, у якіх розныя інтарэсы, розныя погляды, але ў іх ёсць адно агульнае – яны любяць мастацтва і, у прыватнасці, віцебскага мастака.

*Навуковы супрацоўнік Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы Багадухава М.І.*




Беларуская мова – ТБМ – наша будучыня

## Ахвяраванні на ТБМ

1. Ажар Тацяна – 10000 р., г. Менск
2. Яновіч В.Д. – 50000 р., г. Менск
3. Стрыжакова Н.В. – 6000 р., г. Гомель
4. Машынскі А.К. – 10000 р., г. Гомель
5. Залоска Н.Н. – 1000 р., г. Менск
6. Карповіч Н. – 5000 р., г. Менск
7. Донаў П.П. – 5000 р., г. Менск
8. Ляўцня С.Н. – 30000 р., г. Менск
9. Мішута Сяргей – 100000 р., г. Наваполацк
10. Бародзіч Сямён – 12000 р., в. Дараганова, Асіп. р-н.
11. Ціхановец Сяргей – 5000 р., г.п. Бягомль
12. Маркоўнік Н.Р. – 10000 р., г. Менск
13. Бароўскі Анатоль – 100000 р., г. Гомель
14. Мілінкевіч Алесь – 22000 р., г. Гародня
15. Шалахоўскі Аляксей – 10000 р., г. Менск
16. Раманюк Т.І. – 40000 р., г. Менск
17. Лістуноў Алег – 10000 р., г. Менск
18. Фунт Язэп – 50000 р., г. Гародня
19. Фурс Антон – 20000 р., г. Паставы
20. Грышан Мікола – 35000 р., г. Дзятлава
21. Шкірманкоў Фелікс – 20000 р., г. Слаўгарад
22. Шафарэнкаў М.М. – 10000 р., г. Менск
23. Руткоўская А. – 25000 р., г. Менск

Дзейнасць ГА “ТБМ імя Францішка Скарыны” па наданні роднай мове рэальнага статуса дзяржаўнай вымагае вялікіх выдаткаў. Падтрымаць ТБМ – справа гонару кожнага грамадзяніна краіны.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас, вул. Румянцава, 13, г. Мінск, 220034, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ №3015212330014 у Мінскай гардырэкцыі ААТ “Белінвестбанка” код 764 (УНП 100129705) праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

**Паведамленне**

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705**
атрымальнік плацяжу
**Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"**
назва банка
Рахунак атрымальніка **3015212330014** Асабовы рахунак **764**
(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|
| Ахвяраванні | на дзейнасць | | |
| ТБМ | | | |
| | | Пеня | |
| | | Разам | |

**Касір**

Плацельшчык

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705**
атрымальнік плацяжу
**Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"**
назва банка
Рахунак атрымальніка **3015212330014** Асабовы рахунак **764**
(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

**Квітанцыя**

| Від плацяжу | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|
| Ахвяраванні | на дзейнасць | | |
| ТБМ | | | |
| | | Пеня | |
| | | Разам | |

**Касір** **М.П.**

Плацельшчык

Старонкі
2-й Сусветнай вайны

**Анатоль Валахановіч,** пісьменнік, журналіст, гісторык, краязнаўца

# Нацыст № 3 - Рудольф Гес

**(Гісторыка-дакументальнае эсэ)**

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Пра Р. Геса, як палітыка, сведчыць такі факт. У час перамоваў 12-14 лістапада 1940 года В.М. Молатава з кіраўніцтвам Германіі ў Берліне Молатаў паведамляў у Маскву, што раніцаю 13 лістапада ён сустрэўся з Г. Герынгам, потым з Р. Гесам. "С Г. Герингом говорили в общих чертах о желательности улучшения и развития экономическнх отношений, - дакладваў В.М. Молатаў у Маскву. - Беседа с Гессом не имела политического значения".

Запісы гутарак В.М. Молатава з Р. Гесам не апублікаваны, па-гэтаму даводзіцца задавальняцца кароткімі ўспамінамі В.М. Молатава (у запісу Ф. Чуева) і Хільгера: размова ішла аб палітычным уладкаванні нацысцкай дзяржавы і НСДАП, а таксама аб адносінах паміж дзяржаўным і партыйным апаратам у абедзвюх краінах.

В.М. Молатаў у гутарцы з Крыпсам і І.В. Сталін у гутарцы з Бівербуфкам, які працягваў прытрымлівацца ранейшай версіі аб місіі Геса ў Вялікабрытанію казаў: "По моему личному мнению, которого не разделяет Черчилль, Гесс приехал с чьего-то ведома".

Нават у кастрычніку 1944 года, добра напаіўшы гарэлкай У. Чэрчыля, І.В. Сталін паспрабаваў, але безвынікова, дабіцца ад яго прызнання ці пацверджання, што Р. Геса заманілі ў Шатландыю англійскія ўлады. У ідэалізм і донкіхотства "вождь всех времен и народов" не верыў.

У траўні - чэрвені 1941 года І.В. Сталін быў у стане нервовага напружання, калі чуў аб падрыхтоўцы Германіі да нападу на СССР, і не хацеў у гэта верыць. Місія Геса ў спалучэнні з паведамленнямі аб сканцэнтраванні германскіх зойск на савецка-германскай граніцы і з-за адсутнасці выразнай інфармацыі з Лондана - адкуль жа паслу СССР у Вялікабрытаніі І. Майскаму было яе ўзяць! - наводзіла на трывожныя думкі.

Нерваваўся і У. Чэрчыль, які баяўся, што СССР і Германія зноў дамовяцца. Прылёт Р. Геса аказаўся вельмі дарэчы - ім можна было бясkарна палохаць Маскву, дзе страх перад "капиталистическим окружением" не знікаў нават у часы найбольшых перамоганосных трыумфаў у знешняй палітыцы і перамога Савецкага Саюза на франтах Вялікай Айчыннай вайны. Кампанія дэзінфармацыі брытанцам удалася на славу, зрабіўшы любое, нават прыватнае ці часовае савецка-германскае пагадненне немагчымым.

І гэта быў, магчыма, самы галоўны вынік палёту Р. Геса, калі ён апошні раз у жыцці сам сеў у якасці пілота за штурвал самалёта-знішчальніка "Месершміт" ВР 110.

Калі б Р. Гесу ўдалося дамовіцца з англічанамі аб міры ці хаця б аб перамір'і, А. Гітлер прыняў бы яго з распрасцёртымі рукамі, як у жніўні 1939 года вярнуўшагася з Масквы рэйхміністра замежных спраў І. фон Рыбентропа, пасля падпісання савецка-германскага дагавора.

Усё гэта сведчыць аб гым, што англійская разведка не толькі не "заманивала" Р. Геса ў Вялікабрытанію, але была "застигнута врасплох" яго нечаканым прылётам. Ён у простым сэнсе слова зваліўся з неба ім на галаву.

Прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі У Чэрчыль проста не паверыў, калі яму далажылі пра такога вельмі незвычайнага "госця".

Місіяй Геса ў Маскве цікавіліся і з пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Даведаўшыся аб палёце Геса, І.В. Сталін жартам спытаўся ў В.М. Молатава: "Кто бы из наших членов Политбюро мог решиться на такое? Я порекомендовал Маленкова, поскольку он шефствовал от ЦК над авиацией. Смеху было! Сталин предложил сбросить Маленкова на парашюте к Гитлеру, пусть, мол, усовестит его не нападать на СССР! А тут как раз и Маленков зашел в кабинет. Мы так хохотали, будто умом тронулись".

Аналогія Гес - Маленкоў, як відаць, уяўляецца нам не проста дасціпнай, але і вельмі дакладнай.

Далейшы лёс Рудольфа Геса быў адначасова і ясны, і цёмны. Ні родныя, ні "партайгеноссе", якія сядзелі побач з ім на лаўцы падсудных у Нюрнбергу, а потым і ў турме Шпандаў, не сумняваліся, што перад ім "наш" Рудольф Гес, які хаця і моцна змяніўся. Яшчэ б: сімуляваць вар'яцтва памайстэрску да такой ступені, каб не пазнаць Карла Хаўсхофера - свайго вельмі блізкага сябра і свайго настаўніка, на гэта трэба мець вялікі талент.

Цікавыя дзівоцтвы паводзінаў Р. Геса былі і ў турме Шпандаў: да 1969 года, напрыклад, ён катэгарычна адмаўляўся сустракацца з сям'ёй і толькі даў згоду на гэта, калі ледзьве не памёр ад прыступу прападной язвы страўніка. І яшчэ. Адсутнасць на целе "заключенного № 7" слядоў яго раненняў з часоў Першай Сусветнай вайны (калі верыць некаторым публікацыям!) да нашага часу не атрымала яснага тлумачэння з боку лекараў-хірургаў, якія назіралі за ім.



*Карл Хаўсхофер - бацька еўразійскай геапалітыкі*

На думку назіраўшага яго ў турме Шпандаў брытанскага хірурга Х. Томаса, Рудольфа Геса забівалі двойчы: сапраўднага Р. Геса ў 1941 годзе, калі збілі (?) яго самалёт, і састарэлага 93-гадовага двайніка (?) ў 1987 годзе, калі СССР быў ужо гатовы даць згоду на яго вызваленне. Сын Рудольфа Геса Вольф-Рудзігер схіляўся да прыняцця другой версіі, але катэгарычна адмаўляў першую. Гэтую версію падтрымліваў і нямецкі гісторык М. Вэбер.

Можна ўпэўнена казаць аб прычынах і матывах палёту Рудольфа Геса ў Шатландыю. Але, відаць, мы не даведаемся каго, менавіта, схавала магіла ў паўночнай Баварыі, да нашага часу ўся ўсыпаная жывымі кветкамі.

17 жніўня 1987 года 93-гадовы Рудольф Гес быў знойдзены на прагулцы ва ўнутраным дворыку турмы Шпандаў з кавалкам электрычнага шнура на шыі. У 16 гадзін 10 хвілін ён быў ужо мёртвым. І цяпер яшчэ застаецца загадкаю: ці памёр ён сам, ці хтосьці яму ў гэтым дапамог. Самагубства не было ў стылі жыцця і паводзін Р. Геса. Гэта адбылося за два месяцы да яго вызвалення з турмы Шпандаў, калі ў гэты месяц яго вартавалі амерыканцы. У агульнай жа колькасці Р. Гес прасядзеў у турме Шпандаў 41 год і хутка павінна была быць яго амністыя. Домік, у якім ён жыў на тэрыторыі турмы Шпандаў, быў спалены. Пад гітлераўскімі "Нюрнбергскімі законамі" сярод іншых подпісаў фашысцкіх злачынцаў ёсць і яго подпіс.

Калі Р. Геса ніхто не накіроўваў, не прымушаў да ўцёкаў і не "заманивал", а сам ён ці быў гатовы да адказнай місіі (сядзець за штурвалам самалёта - адно, а весці перамовы аб міры - зусім іншае), дык хто ж стаяў за яго палётам у Вялікабрытанію і якую мэту пераследаваў?

У біяграфіі Р. Геса ўвесь час сустракаецца прозвішча Хаўсхофер. У Германіі Хаўсхофераў было двое: бацька і сын. Старэйшы, Карл, геапапігык, выкладаў у Мюнхенскім універсітэце, дзе ў свой час вучыўся Р. Гес, і быў прыняты ў сям'ю прафесара як родны сын. Сам Гес успрымаў Карла Хаўсхофера не толькі як настаўніка, але як і бацьку (бацькі Р. Геса ўвесь час жылі ў Егіпце) і знаходзіўся ў псіхалагічнай і інтэлектуальнай залежнасці ад яго, як пазней - хаця і больш моцна - ад Гітлера. Менавіта, Р. Гес пазнаёміў К. Хаўсхофера з А.Гітлерам.

Малодшы, Альберт, таксама геапапітык, быў сябрам і дарадчыкам Р. Геса па міжнародных пытаннях, у якіх намеснік фюрэра па партыі разбіраўся, мякка кажучы, дрэнна. Існуе думка, што, менавіта, Альберт адыграў вырашальную ролю ў падрыхтоўцы палёту Геса ў Англію. Альберт Хаўсхофер быў у прыязных сяброўскіх адносінах з герцагам Дуглас-Гамільтонам, якога ў лістах папросту называў "Дугло".

Вясною 1941 года Карл Хаўсхофер ведаў тое, што не ведаў яшчэ Р. Гес - аб канчатковым рашэнні А. Гітлера напасці на СССР і аб падрыхтоўцы да нападу. К. Хаўсхофер аказваў падтрымку А.Гітлеру - кажуць, не толькі інтэлектуальную, але і духоўную, мо, нават, і містычную. Але Карл Хаўсхофер адышоў ад свайго "вучня", калі еўрапейскі канфлікт стаў перарастаць у Другую Сусветную вайну, а напад на СССР да гэтага вёў. К. Хаусхофер, нарэшце, зразумеў, што Адольфа Гітлера ўжо не спыніць у яго амбіцыйных дамаганнях на сусветнае панаванне.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# На Пружанскіх могілках памяць ляжыць

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары.)*



**Фота 7.**



**Фота 8**



**Фота 9**



**Фота 10**

А вайсковыя пахаванні ўсіх войнаў XX стагоддзя на каталіцкіх і праваслаўных могілках Пружанаў строгімі радамі магілаў кажуць аб адным і тым жа: "Людзі памятайце!".

***Яўгенія Пятрань.***

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 27 сакавіка 2007 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** naszaslowa@tut.by
**http://tbm.org.by/ns/**

***Рэдакцыйная калегія:***
Людміла Дзіцэвіч, Вольга Іпатава, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 30. 06. 2008 г. у 10.00. Замова № 1576.
Аб'ём 1 друкаваны аркуш. Наклад 2000 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 2230 руб., 3 мес.- 6690 руб.
***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.